www.nv-online.info

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадо...
Якуб КОЛАС

№ 77 (4226)

29 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УЗВЫШАНАЕ І ЗЯМНОЕ

# «СУПРАЦОЎНІЦТВА з Каталіцкай царквой будзе і далей плённа развівацца...»

*У Мінску праходзіць Рада канферэнцый біскупаў Еўропы. Гэта важная падзея ў рэлігійным жыцці. Удзел у мерапрыемстве бяруць каталіцкія святары з 45 краін.*




З біскупамі сустрэўся прэзідэнт Рэспублікі Беларусь **Аляксандр Лукашэнка**. Былі запрошаны таксама віцэ-прэм'ер **Васіль Жарко**, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Максім Рыжанкоў**, міністр замежных спраў **Уладзімір Макей**. Прысутнічаў у зале Палаца Незалежнасці і кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы – мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі **Павел.**

*"Прыезд у Мінск такіх высокіх прадстаўнікоў каталіцкага духавенства мы расцэньваем як знак асаблівай павагі да вернікаў-каталікоў Беларусі,* – вітаў гасцей А.Лукашэнка. І адзначыў: – *Мы сустракаемся ў год 25-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Святым Прастолам. Перакананы: наша супрацоўніцтва з Каталіцкай царквой будзе і далей плённа развівацца на карысць міру і стварэння".*

Старшыня Рады канферэнцый біскупаў Еўропы кардынал **Анджэла Баньяска** таксама зрабіў рэверанс у бок беларускіх улад: «*Нам вядома, як паспяхова развіваецца жыццё Каталіцкага касцёла ў Беларусі, дзякуючы таксама добрым узаемаадносінам з дзяржаўнымі ўладамі: дзяржава і Касцёл разумеюць, што яны пакліканы разам спрыяць супольнаму дабру і ўсебаковаму развіццю асобы ў духу ўзаемнага прызнання і ўзаемапавагі*». Але ўсё ж такі адно балючае пытанне кардынал не прамінуў акрэсліць: «*Мы высока ацэньваем працу і дыялог, якія дзяржаўныя ўлады вядуць з рознымі хрысціянскімі цэрквамі краіны. У гэтай атмасферы добрага супрацоўніцтва мы ўпэўнены, што пытанні адносна дазволу на пражыванне і працу для замежных святароў і адносна касцельнай маёмасці (а яны абодва жыццёва важныя для місіі евангелізацыі) могуць быць вырашаны ў эфектыўным і актуальным дыялогу з удзелам усіх*».

Падчас сустрэчы А.Лукашэнка прапанаваў арганізаваць у Мінску сустрэчу **Патрыярха Кірыла** і **Папы Рымскага**. "Тут было заўважана аб выніковасці сустрэчы Папы Рымскага і Патрыярха Кірыла. Недзе там, далёка на Кубе. Думаю, трэба падумаць, каб яны сустрэліся тут, у Мінску. Гэта сёння якраз тое месца, дзе можна абмяркоўваць праблемы Захаду і Усходу, Поўначы і Поўдня і ўсёй планеты», – заявіў кіраўнік дзяржавы.

КАМЕНТАРЫЙ

## «Дзяржава шукае падтрымкі ў Касцёла...»

Трэба адзначыць, што ў 2007-м Беларусь ужо прымала генеральных сакратароў Канферэнцый каталіцкіх епіскапаў Еўропы. Але тады святары не сустракаліся з прэзідэнтам, а сёлета Аляксандр Лукашэнка знайшоў час для размовы з біскупамі.

Ці азначае гэта, што дзяржава на афіцыйным узроўні гатова павярнуцца тварам да каталікоў і дапамагчы ў вырашэнні праблем, якія хвалююць прадстаўнікоў гэтай канфесіі на Беларусі? На такое пытанне "Народная Воля" папрасіла адказаць каардынатара супольнасці хрысціянскіх журналістаў і блогераў **Максіма Гацака.**

– Я не сказаў бы, што дзяржава паварочваецца тварам да каталікоў і гатова вырашаць усе існуючыя праблемы, – заўважыў суразмоўца. – Нявырашаным, напрыклад, застаецца пытанне служэння замежных святароў у Беларусі. Пра гэта шмат разоў гаварыў мітрапаліт **Тадэвуш Кандрусевіч**, гэтае пытанне ўздымалася і на сустрэчы біскупаў і епіскапаў з Аляксандрам Лукашэнкам. Але ці будзе яно вырашана? Таму факт сустрэчы кіраўніка дзяржавы з каталіцкімі святарамі, на мой погляд, хутчэй сведчыць пра тое, што дзяржава шукае падтрымкі ў Касцёла.

**– Падчас сённяшняй сустрэчы Аляксандр Лукашэнка выказаў ідэю аб сустрэчы ў Мінску Папы Рымскага Францыска і расійскага Патрыярха Кірыла. Але чаму не запрасіў у Беларусь Папу Францыска, чаго так прагнуць беларускія каталікі?**

– Аляксандр Лукашэнка не першы год стараецца прэзентаваць Мінск як нейкую міратворчую пляцоўку. І запрашаць у Мінск ён можа розных людзей. Але асаблівага сэнсу сустрэчы расійскага Патрыярха і Папы Рымскага менавіта ў Мінску, на мой погляд, няма. Па-першае, такая сустрэча адносна нядаўна адбылася. А па-другое, навошта Папе Рымскаму Францыску і Патрыярху Кірылу ехаць у Беларусь? Такую сустрэчу з тым жа поспехам можна арганізаваць у Рыме ці Маскве... Іншая справа – візіт у Беларусь Папы Францыска. Але сёння не толькі ад Лукашэнкі залежыць вырашэнне гэтага пытання. Сваю згоду на гэты візіт павінна даць Руская праваслаўная царква.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

РЭГІЁН

## З Мінска ў Полацк

*Беларуская чыгунка плануе запусціць новыя хуткасныя дызелі.*

Пакуль разглядаецца пытанне адкрыцця міжрэгіянальнай лініі бізнес-класа Мінск–Полацк і Мінск–Гродна.

– *З Мінска два дызель-цягнікі будуць адпраўляцца разам, а ў Маладзечне з'язджаць па сваіх баках. Дадзенае рашэнне пакуль на разглядзе,* – паведамляе Беларуская чыгунка.

Сёння выехаць з Полацка ў Мінск можна толькі ў начны час: 00.11 (Віцебск–Мінск) і 03.30 (Рыга–Мінск). У асноўным жыхары Полацкага рэгіёна для паездак у сталіцу выбіраюць паслугі маршрутнага таксі.

Плануецца, што з Полацка цягнік будзе адпраўляцца каля 7 гадзін раніцы і прыбываць у Мінск каля 10.00, назад – з Мінска ў 17.30, прыбыццё ў Полацк амаль у 21.00 гадзіну.

**Васіль КОРЗУН.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО



## Алесь Карлюкевіч – новы міністр інфармацыі Беларусі

Журналісцкая кар'ера Алеся Карлюкевіча пачалася ў 1985 годзе, калі ён паступіў у Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, дзе рыхтавалі ў тым ліку і ваенных журналістаў.

Затым працаваў у газетах «Во славу Родины», «Культура», «Звязда», «Чырвоная змена», «Народная газета», «Советская Белоруссия». Каля пяці гадоў быў дырэктарам рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва», а ў 2011 годзе стаў галоўным рэдактарам «Звязды». У 2012–2016 гадах узначаліў «Выдавецкі дом "Звязда", але ў снежні 2016 года кандыдатура Карлюкевіча была ўзгоднена на пасаду намесніка міністра інфармацыі. Да апошяга часу там і працаваў.

Акрамя таго, Алесь Карлюкевіч з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі, піша творы на беларускай мове. У адным з інтэрв'ю ў яго запыталі: "Ці хапае ініцыятыў, каб увекавечыць памяць пра вядомых беларускіх літаратараў? Хацелася б, каб у нас з'явілася вуліца Гілевіча ды іншых знакамітых пісьменнікаў..."

*"Ушанаванне праходзіць больш дынамічна, чым проста найменаванне вуліц,* – адказаў спадар Карлюкевіч. – *Створаны Музей Васіля Быкава, вядзецца мемарыяльная работа ў доме Рыгора Барадуліна ва Ушачах. Але найбольш важна, што кнігі гэтых аўтараў перавыдаюцца. Творы таго ж Барадуліна з'яўляюцца запатрабаванымі і актуальнымі для замежных «суразмоўцаў». Вось такія аўтары, так бы мовіць, сусветнага маштабу і з'яўляюцца тымі вежамі, на якія варта арыентавацца маладым творцам..."*

А вось пра далейшы лёс цяпер ужо былога міністра інфармацыі **Ліліі Ананіч**, якая адпрацавала на гэтай пасадзе крыху больш за тры гады, пакуль нічога не вядома. Не выключана, што з часам ёй дадуць новы "фронт работы".

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

РЭБУС



## «Вы – людзі прэзідэнта»

*Учора чатыры ўніверсітэты краіны атрымалі новых рэктараў*

**Андрэй Кароль** *(на фота)* стаў рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Да гэтага часу ён кіраваў іншай ВНУ – Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. Менавіта ў часы яго рэктарства з ГрДУ былі звольнены прагрэсіўныя выкладчыкі – прафесар **Вячаслаў Швед**, гісторыкі **Генадзь Семянчук і Іна Соркіна,** якая, дарэчы, збірала подпісы пад зваротам у Міністэрства адукацыі аб вяртанні выкладання ў школе гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове.

Таксама А.Лукашэнка ўзгадніў учора прызначэнне **Сяргея Харытончыка** рэктарам Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, **Дзяніса Дука** – рэктарам Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А.Куляшова, **Максіма Кіркора** – рэктарам Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання.

*«Як толькі вы выйдзеце за парог гэтага кабінета, вы – людзі прэзідэнта,* – звярнуўся Лукашэнка да рэктараў. – *Вы ажыццяўляеце яго палітыку. У адваротным выпадку не трэба згаджацца і ісці на гэтыя пасады. ...Я надаю асаблівую ўвагу працы з рэктарскім складам. Мне перш за ўсё патрэбны парадак".*

Парадокс: з аднаго боку, Беларусь імкнецца ў Балонскі працэс, з другога – рэктараў ВНУ прызначае кіраўнік дзяржавы і павучае іх, як працаваць.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПРОФІЛЬ



## Кар'ера Юрыя Бондара

Учора здарылася тое, пра што паміж сабой дзеячы культуры шапталіся як мінімум апошнія паўгода. Міністра культуры Барыса Святлова адправілі ў адстаўку.

Новаму міністру культуры Юрыю Бондару 44 гады. У 1997 годзе скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 2007 годзе – Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. З 2001 года працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў на пасадах выкладчыка, старшага выкладчыка, дацэнта кафедры культуралогіі, першага прарэктара.

Калі Бондара пытаюцца, як яго з такой адукацыяй занесла ў культуру, ён са смехам адказвае: маўляў, і сам не думаў, што рэалізуецца менавіта ў культурнай галіне.

Пра сябе Юрый Бондар у інтэрв'ю парталу minsknews.by распавядаў так: «*Я вырас у інтэлігентнай сям'і, дзе прынята было слухаць тату, паважліва ставіцца да мамы. Таму выбар юрыдычнай прафесіі вызначылі, хутчэй, бацькі. Бацька – прафесар, доктар гістарычных навук – выкладаў у БДУ, прадвызначаў для мне кар'еру юрыста або адваката. Таму, калі споўнілася 16 гадоў, я паступіў на аддзяленне правазнаўства ў адзін з мінскіх каледжаў, скончыў яго з чырвоным дыпломам, а затым працягнуў навучанне на юрфаку БДУ. Пасля ўніверсітэта 3 гады працаваў па спецыяльнасці, у мяне ўсё атрымлівалася. Аднак перспектывы зрабіць кар'еру класічнага юрыста не прыносілі мне асаблівага маральнага задавальнення*».

Ва Універсітэт культуры Юрыя Бондара запрасіла **Ядвіга Грыгаровіч**, якая ўзначальвала ВНУ з 1991 года: «*На пачатку 2000-х тут праходзілі рэформы, і, паводле слоў Ядвігі Дамінікаўны, ёй патрэбны быў пісьменны памочнік. Я не адмовіўся і ў выніку затрымаўся ў ВНУ на 15 гадоў. За гэты час папрацаваў выкладчыкам, пабываў на розных адміністрацыйных пасадах, у тым ліку першым прарэктарам, што дазволіла мне добра вывучыць адукацыйны, навуковы і выхаваўчы працэсы ў творчай ВНУ*».

Прабабуля Юрыя Бондара па матчынай лініі была паспяховай актрысай пецярбургскага тэатра. Сам Юрый Паўлавіч у свой час спяваў у школьным хоры, і педагогі нават пагаворвалі, што ён закапаў талент вакальнага выканаўцы. Студэнтам ён выступаў у студэнцкай лізе КВЗ, а цяпер часам піша апавяданні.

11 гадоў таму Юрый Бондар у Акадэміі кіравання абараніў кандыдацкую дысертацыю па спецыяльнасці «Тэорыя палітыкі, гісторыя і метадалогія палітычнай навукі».

Ён суаўтар дзвюх версій вучэбна-метадычнага комплексу па паліталогіі – падручнік напісаў разам з бацькам.

Галіна навуковых інтарэсаў Бондара – гісторыя палітычнай навукі, тэндэнцыі і заканамернасці яе эвалюцыі на постсавецкай прасторы, метадалагічныя праблемы палітычнай сацыялізацыі асобы спецыяліста, прыкладныя аспекты грамадзянскага выхавання студэнцкай моладзі.

У 2008 годзе Юрый Бондар узначаліў першасную арганізацыю РГА «Белая Русь» ва Універсітэце культуры.

У 2014 годзе быў абраны дэпутатам па Чыгуначнай выбарчай акрузе Мінска, быў намеснікам старшыні Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў XVII склікання.

У афіцыйнай біяграфіі Бондара сказана, што ён мае падзяку ад А.Лукашэнкі, граматы Міністэрства культуры і рэспубліканскага савета РГА «Белая Русь».

Дарэчы, калі крыху больш за чатыры гады таму Бондар быў прызначаны рэктарам Універсітэта культуры, ён змяніў на гэтай пасадзе менавіта Барыса Святлова!

«*На пасадзе міністра культуры я павінен прыкласці максімальныя намаганні для папулярызацыі нашых гісторыка-культурных традыцый, абрадаў, рамёстваў і народнай творчасці, развіцця аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны і іх прывядзення ў належны парадак, прыцягнення моладзі ў творчае жыццё краіны,* – цытуе belta.by словы новага міністра. – *Нам патрэбны новыя таленты, новыя зоркі. З гэтым мы будзем працаваць вельмі шчыльна.*

*Мы павінны прасоўваць нашы нацыянальныя культурныя трэнды, ствараць новыя і развіваць сучаснае беларускае мастацтва. Недастаткова сёння ствараць культурны прадукт і пры гэтым ніяк яго не прасоўваць. Патрэбна папулярызацыя творчых работ, бо беларускай культуры ёсць чым ганарыцца.*

*Мы павінны павысіць аўтарытэт тэатра, нацыянальнага кінематографа, бібліятэк, клубных устаноў, таму што культура – гэта аснова нашага духоўнага жыцця. Дасягненні традыцыйнай культуры і сучаснага мастацтва Беларусі – прадмет гонару беларускага народа*».

**Марына КОКТЫШ.**

НЕСТАНДАРТ

## Генерал, які разганяў акцыі пратэсту, стаў памочнікам прэзідэнта па Міншчыне



Ігар Яўсееў не раз браў удзел у брутальным разгоне вулічных акцый пратэсту, у тым ліку пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

Шырокую вядомасць ён атрымаў пасля разгону масавай акцыі пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе, за што быў унесены ў "чорны спіс" Еўрасаюза. Яўсееў таксама актыўна кіраваў затрыманнямі і збіваннем актывістаў падчас маўклівых акцый пратэсту ў 2011 годзе.

Да 2013 года Яўсееў займаў пасаду начальніка сталічнай міліцыі, два гады кіраваў віцебскай міліцыяй. Да ўчарашняга прызначэння займаў пасаду начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама.

Паводле слоў А.Лукашэнкі, прызначэнне чалавека ў пагонах на пасаду памочніка прэзідэнта ў некаторай ступені эксперымент. "*Думаю, тут памылкі не будзе. Паглядзім, як складзецца лёс генерала на гэтай цывільнай пасадзе, хоць цяжка сказаць, што яна цывільная: яна часам важней і яшчэ больш ваенная, чым у некаторых людзей з пагонамі*", – цытуе кіраўніка дзяржавы belta.by.

**Вера ВІР.**

## ...а намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання – памочнікам прэзідэнта па Віцебшчыне



Аляксандр Субоцін прызначаны памочнікам прэзідэнта – інспектарам па Віцебскай вобласці. Прадстаўляючы Субоціна, Аляксандр Лукашэнка выказаў спадзяванне, што цяпер у гэтым рэгіёне не будзе праблем з пасевамі. "*Мы да гэтага часу не можам там убраць пару тысяч гектараў збожжавых. Якія гэта ўжо збожжавыя ў кастрычніку, вы цудоўна разумееце. Значыць, трэба сеяць там, дзе магчыма, і тое, што там можна ўбраць і атрымаць эфектыўнасць*", – звярнуў увагу Лукашэнка.

Праўда, Аляксандр Субоцін хоць і з'яўляўся намеснікам міністра сельскай гаспадаркі, але адказваў не за раслінаводства, а быў галоўным ветэрынарным урачом краіны. Ён родам з Віцебскай вобласці і працяглы час працаваў менавіта на радзіме, а дакладней з 1998-га па 2014 год займаў розныя пасады ў Віцебскай ветэрынарнай акадэміі. Менавіта адтуль з пасады першага прарэктара і трапіў у 2014 годзе на адказную работу ў міністэрства. Зараз у яго службовай біяграфіі з'явіўся новы радок.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

## Как менялась ставка рефинансирования в 2017 году

С 18 октября ставка рефинансирования Нацбанка Беларуси будет снижена восьмой раз за год – до 11% годовых. От размера этой ставки зависят банковские ставки по кредитам и вкладам.



